STOWARZYSZENIE MUZEUM
I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ
W HAJNÓWCE
17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42
BIBLIOTEKA













АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

16 жніўня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 33 (2695)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

АФІЦЫЙНА

## ГОСЦІ З ДАЛЁКАЙ СІБІРЫ



*У час сустрэчы.*

З далёкай Сібіры ў Беларусь прыехала дэлегацыя Цюменскай вобласці, якую ўзначаліў Валерый Івочкін, намеснік дырэктара Дэпартамента інфармацыі і рэгіянальных адносін Адміністрацыі Цюменскай вобласці. У складзе дэлегацыі журналісты газет і тэлебачання, старшыня Нацыянальна-культурнага таварыства "Беларусь", вядомы на Цюменшчыне прадпрымальнік Уладзімір Шугля. Як зазначыў кіраўнік расійскай дэлегацыі на сустрэчы ў Дзяржаўным камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, мэта візіту — азнаямленне з магчымасцямі наладжвання дзелавых кантактаў з беларускімі прадпрыемствамі. І канешне, у гасцей ёсць жаданне на свае вочы ўбачыць, як жывуць беларусы, каб расказаць пра гэта ў сродках масавай інфармацыі. Першыя ўражанні, па словах членаў дэлегацыі, самыя прыемныя: тут, у Беларусі, здолелі захаваць лепшае з мінулых гадоў — бясплатную медыцыну і адукацыю, невысокі ўзровень беспрацоўя. Вельмі спадабаўся Мінск: сталіца выглядае дагледжанай і прыгожай.

Падчас сустрэчы Старшыня камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Білык расказаў гасцям пра тое, як у згодзе жывуць на Беларусі людзі звыш 100 нацыянальнасцей, пра сувязь і супрацоўніцтва з суайчыннікамі, што жывуць за межамі Беларусі. Дамовіліся пра абмен інфармацыяй і больш цесныя кантакты з Цюменскай абласной грамадскай арганізацыяй Нацыянальна-культурнае таварыства "Беларусь".

У праграме візіту цюменскай дэлегацыі наведванне вядучых прадпрыемстваў нашай краіны — Мінскага трактарнага завода, вытворчага аб'яднання "БелаўтаМАЗ", Мінскага завода калёсных цягачоў, выставы беларускіх таваравытворцаў у канцэрне "Белрэсурсы". Запланавана шмат культурных мерапрыемстваў, сустрэчы з журналістамі ў Дзяржкамітэце па друку РБ і ў Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Пасля сталіцы госці з Расіі накіруюцца ў Брэсцкую вобласць.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**

ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ




Пенсіянер Міхаіл Ярковіч лічыць, што яго жыццё ўдалося. Ён і сёння запатрабаваны: як сантэхнік, ён даглядае славутасць беларускай сталіцы — фантан "Хлопчык з лебедзем" у скверы на Кастрычніцкай плошчы. А яшчэ ён мае і сваю "асабістую славутасць" — пышныя вусы. Ён іх адпусціў больш пятнаццаці гадоў таму не дзеля забавы, а ў гонар з'яўлення на свет дарагога ўнука Жэні.

НА ЗДЫМКУ: назіральнік мінскага фантана "Хлопчык з лебедзем" Міхаіл ЯРКОВІЧ.

**Фота Аляксея МАЦЮШКОВА.**

ГАСЦЁЎНЯ

*Нядаўна давялося паглядзець у сталічным Музычным тэатры прэм'еру камічнай оперы "Даратэя", музыку да якой напісаў Ціхан Хрэннікаў, а пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Барыс Лагода. Спектакль атрымаўся вясёлы. Артысткі Ірына Шыцікава і Ірына Цярэнцьева сваім іскрамётным тэмпераментам і талентам прымусілі гледачоў не раз шчыра апладзіраваць. У зале было шмат моладзі, а пасля спектакля чула, як адзін юнак казаў сваёй спадарожніцы, што на такую оперу ён згодны хадзіць кожны тыдзень. Падумалася: прыемна было б пачуць гэтыя словы стваральнікам спектакля...*

*А праз некалькі дзён я дамовілася пра сустрэчу з дырэктарам тэатра Расціславам БУЗУКОМ, захацелася яго спытаць, якімі клопатамі жыве сёння творчы калектыў.*



## ДЫРЭКТАР ТЭАТРА — НЕ ЗАГАДЧЫК ГАСПАДАРКІ

**— Расціслаў Леанідавіч, нашым чытачам цікава будзе даведацца пра гісторыю тэатра.**

— Якраз праглядаў нядаўна дакументы часоў заснавання: тэатр узнік па рашэнню ўрада ў 1971 годзе і называўся Тэатрам музычнай камедыі. Пастанову падпісаў Пётр Машэраў. Гарвыканкам выдзеліў тады для артыстаў 58 дзяржаўных кватэр. Дарэчы, у наш час гэты факт успрымаецца як фантастыка.

Спачатку тэатр не меў свайго памяшкання, артысты рэпеціравалі і выступалі на розных сцэнах, а з 1981 года пасля рэстаўрацыі аднаго са старых мінскіх будынкаў трупа нарэшце атрымала пастаянны адрас.

**— Для любога тэатра самае галоўнае — рэпертуар. Вы пра гэта пішаце і ў сваёй кнізе "Тэатральныя далягляды". Як за гэтыя гады мянялася рэпертуарная афіша?**

— На самым пачатку рэпертуар склалі класічныя аперэты Штрауса, Кальмана. Пяць гадоў назад у нас з'явілася выдатная балетная трупа, і сёння ў рэпертуарнай афішы 18 спектакляў розных жанраў. Ёсць нават дзіцячая опера, опера для дарослых — "Цыганскі барон"...

Тэатру, можна сказаць, стала цесна ў рамках музычнай камедыі, і з 1 студзеня 2000 года ён перайменаваны ў Дзяржаўны музычны тэатр.

Асобна заўважу: ні ў адным тэатры музычнай камедыі ў межах СНД няма самастойнага балета, як у нас. Артысты балета не толькі забяспечваюць нам танцавальныя нумары ў аперэце, мюзіклах, але і танцуюць у сапраўдных балетных спектаклях.

**— Памятаю, калі стваралася балетная трупа, хапала скептыкаў: маўляў, ці не зашмат для Мінска мець дзве балетныя трупы...**

— Так, лічылася, што ў Мінску вельмі моцны Тэатр балета пад кіраўніцтвам славутага балетмайстра В. Елізар'ева. Але мы не адмовіліся ад сваёй задумы. Наш балетмайстар Ніна Дзьячэнка — добры арганізатар, творчы чалавек, улюбёны ў балет. Як паказаў час, мы не памыліліся, калі стварылі балетную трупу.

Сёння ў нашым рэпертуары сем балетных спектакляў: "Жызель", "Дон Кіхот", "Шчаўкунчык" і іншыя. Балетную трупу тэатра ахвотна запрашаюць на гастролі ў еўрапейскія дзяржавы. Выступалі ў Іспаніі, Партугаліі, Англіі, Шатландыі, Германіі, Швейцарыі. Наш балетны дуэт — Канстанцін Кузняцоў і Юлія Дзятко — лаўрэаты пяці міжнародных конкурсаў. Выдатна танцуе і пара — Дзіяна Стэцура і Канстанцін Краснаглазаў. Апошні нядаўна стаў лаўрэатам Міжнароднага конкурсу ў Пярмі.

Заканчэнне на 3-й стар.

**З ПЕРАМОГАЙ!**



● Аляксандр ХІТРОЎ.

З перамогай вярнуліся з сусветнай алімпіяды па матэматыцы ў Сеуле (Паўднёвая Карэя) два выпускнікі Лужаснянскай гімназіі для таленавітых дзяцей — Арцём Кохан і Дзмітрый Дорын. Арцём прывёз залаты медаль, Дзіма — бронзавы. Падрыхтаваў хлопцаў вядомы ў рэспубліцы настаўнік матэматыкі Міхаіл Волкаў.

НА ЗДЫМКАХ: Міхаіл ВОЛКАЎ са сваім вучнем Дзмітрыем ДОРЫНЫМ; Арцём КОХАН.

*БелТА.*



**ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**

# ЯК СТУДЭНТЫ ЗДАЮЦЬ ЭКЗАМЕНЫ

Што можа быць лепей за студэнцкія гады? Маладосць, сябры, тусоўкі ў інтэрнаце. Калі б не прымусовыя выезды на бульбу і "праклятыя" сесіі, кожны дзень здаваўся б святам толькі таму, што ты — студэнт...

Першае можна яшчэ як-небудзь абмінуць, напрыклад, прынесці даведку пра кепскі стан здароўя. Ну а ад сесій, натуральна, нікога яшчэ не вызвалялі. Таму два разы на год у студэнцкім асяроддзі назіраецца значнае ажыўленне. Пачынаюцца бяссонныя ночы і масавыя паходы ў аптэку па валяр'янку. Шчырыя і баязлівыя разлічваюць пераважна на свае сілы: да апошняга выдыху сядзяць за падручнікамі. Лянівыя і няўпэўненыя рыхтуюць шпаргалкі і "бомбы". Ёсць яшчэ і трэцяя катэгорыя навучэнцаў. Гэта тыя, хто пайшоў па шляху "навукова-тэхнічнага прагрэсу". Напрыклад, мае знаёмыя студэнты БДУ абралі менавіта такі варыянт.

Экзамен. Адзін з іх заходзіць у аўдыторыю з пэйджэрам. Выцягвае заданне, сядае за парту рыхтавацца і, выкарыстоўваючы ўсе свае намаганні, дасылае за дзверы знак сваіму саюзніку, маўляў, у мяне сёмы білет... Той адкрывае сшытак з адказамі, тэлефануе па сотавым у пэйджынгавую кампанію і, як вы ўжо здагадаліся, дыктуе гэтыя адказы.

— І няўжо выкладчыкі нічога не заўважылі?

— Ведаеш, мы ставілі пэйджэр на рэжым вібрацыі, таму ён не пішчаў. Галоўнае — зрабіць спакойны і ўпэўнены выгляд.

Група студэнтаў з іншага факультэта наогул паўтарыла сюжэт з вядомага фільма. Падчас экзамену спрытныя навучэнцы ўстаўлялі ў вуха "жучок", а ў суседняй аўдыторыі хлопцы з дапамогай адмысловага прыборчыка дыктавалі ім адказы. Усё проста. Паводле іх слоў, такое абсталяванне каштуе дзесьці 10—15 долараў. Вось вам, паважаныя выкладчыкі, мінусы навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Ёсць яшчэ варыянт з плэерам. Ён часта практыкуецца ў адной з недзяржаўных ВНУ. У плэер уставляецца касета з адказамі... Але, як прызнаюцца студэнты, гэта не вельмі зручна, бо шмат часу губляецца на тое, каб адматаць і знайсці патрэбнае месца.

Ледзь не забылася пра чацвёртую катэгорыю. Гэта тыя, хто верыць у прыкметы. Яшчэ іх называюць аматарамі "халявы". І нездарма, бо "халява" — гэта цэлы рытуал. У 12 гадзін ночы звычайны студэнт высоўваецца ў фортку і крычыць: "Ха-ля-ва!", пасля перавязвае залікоўю кніжку ніткай і кладзе пад падушку. Можна таксама даць патрымаць яе ў рукі выдатніка альбо шчаслівічыка. Ці проста не адкрываць яе, пакуль гэта не зробіць выкладчык.

Вынаходлівыя нашы студэнты, нічога не скажаш! Але, нягледзячы на сваю ўпэўненасць, усе яны ў гутарцы са мной зазначылі, што ўвесь час шанцаваць не можа. І рана ці позна пільным вокам выкладчыка іх "вынаходніцтвы" будуць заўважаны. Тым не менш, да наступнай сесіі светлыя галовы рыхтуюць новыя тэхнічныя эксперыменты.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

**АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ**

# РЭКЛАМА: СА СЛУПОЎ — НА ТЭЛЕЭКРАНЫ, або ШТО ПАЧЫМ У БЕЛАРУСІ

**Рэкламныя аб'явы адлюстроўваюць наша жыццё не горш, чым сацыялагічнае апытанне. Гэта раней яны размяшчаліся толькі на ліхтарных слупах ды прыпынках грамадскага транспарту. Сёння рэклама — добра наладжаны бізнес. Яна гучыць па радыё і тэлебачанні, стракатыя рэкламныя плакаты расквецілі ўсе гарадскія вуліцы, і ніводзін працоўны дзень не абыходзіцца без візіту рэкламных агентаў. Што ж тычыцца рэкламных газет — іх тыражу могуць пазайздросціць многія рэспубліканскія выданні. Людзі мяняюць, купляюць і прадаюць, здаецца, літаральна ўсё, ствараючы своеасаблівы рынак у межах эканомікі дзяржавы. І знайсці ў гэтых аб'явах можна ўсё. Таму мы спынімся толькі на самых асноўных момантах.**

### ЖЫЛЛЁ

Вы хочаце купіць кватэру? Не праблема. Дзесяткі агенцтваў нерухомасці будуць рады ўбачыць вас сваім кліентам. Можна абысціся і без пасрэднікаў. Аднапакаёвая кватэра ў сталіцы каштуе ў сярэднім 8 тысяч долараў, двух- і трохпакаёвыя адпаведна 14 і 20 тысяч. (Цана кватэр у новых дамах з палепшанай планіроўкай — значна вышэйшая). Незакончаны (без унутранага аздаблення) катэдж пад Мінскам абыдзецца ў 8—10 тысяч долараў, катэдж "пад ключ" у маляўнічым месцы і з усімі выгодамі — 30 тысяч долараў.

Максімальна танным зрабілася жыллё ўнаём: пакой — 10, аднапакаёвая кватэра — 30—40 долараў у месяц. Дарэчы, амаль столькі ж каштуе кватэра на суткі — новы від паслуг на рынку нерухомасці.

Абсталяваць набытую кватэру можна, нават з яе не выходзячы. Аб'яў мноства. Мэбля, электроніка, бытавая тэхніка, новая і што была ва ўжытку, — усё з дастаўкай дадому і танней, чым у магазіне. За адным разам, каб не было сумна, можна знайсці і чатырохногага сябра — ці то бяздомнага шчанюка, якога вам падораць абсалютна бясплатна, ці што-небудзь экзатычнае — малпу, пітона або нават кракадзіла.

### МЕДЫЦЫНА

Памятаеце анекдот: "Стаматолаг з жахам пытаецца ў турысткі, якая прыехала з Савецкага Саюза: "Вы што, гэтыя пломбы самі ставілі?!" Сёння гэтая гумарэска ўжо неактуальная. У бясплатнай медыцыны з'явілася альтэрнатыва ў выглядзе шматлікіх медыцынскіх цэнтраў, што працуюць па самых розных напрамках — ад унікальных хірургічных аперацый і псіхатэрапіі да татуіроўкі і вывядзення з запою. І ўсё гэта з выкарыстаннем лепшых прэпаратаў і новых тэхналогій. Медперсанал — толькі высокага класа (нярэдка тут падзарабляюць вядучыя спецыялісты дзяржаўных бальніц і паліклінік). Таму паслугамі той жа платнай стаматалогіі не грэбуюць нават спешчаныя замежныя госці: высокая якасць пры смехатворнай, па іх мерках, цане (лячэнне — прыблізна 10, пратэзаванне 40 долараў).

### АДПАЧЫНАК

Яшчэ нейкія 10—15 гадоў таму запаветнай марай большасці беларусаў была летняя паездка ў Крым. На пуцёўку ў Балгарыю маглі разлічваць толькі самыя выбраныя, а пра іншыя курорты нельга было і марыць. Сёння, на шчасце, мы вольныя ехаць, куды жадае душа і дазваляюць грошы. Паколькі апошніх у нас на адпачынак і іншыя забавы застаецца не так і шмат, асаблівай папулярнасцю сярод беларусаў карыстаюцца аўтобусныя туры: Францыя — ад 250, Іспанія — ад 420, Венгрыя — ад 200 долараў ЗША і гэтак далей. Канешне, ехаць па двое сутак, хаця б і з кандыцыянерам і відэафільмамі, не вельмі зручна, аднак гэта значна танней, чым авіяпералёт, да таго ж падобнае падарожжа дазваляе па меры руху азнаёміцца і з іншымі краінамі. Адпачынак на беларускіх турбазах — на Нарачы, Дзвіне, Браслаўскіх азёрах — каштуе ў сярэднім каля 80 долараў на два тыдні. Адпачынак у горадзе таксама можна зрабіць насычаным і разнастайным. Выбар тут ужо не абмяжоўваецца традыцыйнымі тэатрамі і адзінкавымі рэстаранамі. Да вашых паслуг — дыска-клубы, бары, казіно. Яны не заўсёды даступныя, але цікавыя для адпачынку і завязвання новых знаёмстваў. Хаця знайсці сябра і спадарожніка жыцця можна па ўсё тых жа рэкламных газетах. Між іншым, славянскія нявесты паранейшаму за мяжой карыстаюцца вялікім "попытам" — лісты да іх прыходзяць літаральна з усяго свету.

Не рэдкасцю сталі і "пікантныя" аб'явы, дзе дамы пад экзатычнымі імёнамі прапануюць сваю кампанію заможным кліентам. Або апошняя навінка — платная і толькі для паўналетніх, — сладастрасныя прыгажуні са старонак рэкламных газет запрашаюць патэлефанаваць і застацца "сам-насам з жаночай сваёй мары". (Па тэлевізары, праўда, гэта анансуюць больш сціпла — як службу знаёмстваў).

Адным словам, рэкламных аб'яў самага рознага кшталту вельмі многа. Так, саму рэкламу можна не любіць, лаяцца на яе, але яе наяўнасць сведчыць, што мы нарэшце сталі сапраўднымі пакупнікамі, якія выбіраюць тавар, а не хапаюць тое, што "даюць".

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**АСОБА**



● Валерый ХАРЧАНКА.

Падпалкоўнік міліцыі Тацццяна ТЫЛЕЦ пятнаццаць гадоў з поспехам дэманструе роўнасць жанчыны з мужчынам на нялёгкай службе. Таццяна Уладзіміраўна — старшы следчы па асоба важных справах Следчага камітэта пры Міністэрстве ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. У яе практыцы не адно выяўленае цяжкае злачынства...

**ЗДАРЭННІ**

**"ДЫВЕРСІЯ" БУДЗЕ ДОРАГА КАШТАВАЦЬ І ПАДЛЕТКАМ, І ІХ БАЦЬКАМ.** Пазбаўленне волі тэрмінам не менш як на тры гады пагражае двум падлеткам з Ваўкавыска. Акрамя таго, іх бацькам давядзецца кампенсаваць прычыненую дзяржаве матэрыяльную шкоду.

Вырашыўшы пакатацца на адным з чыгуначных перагонаў, падлеткі выбралі для гэтага металічныя цялежкі для транспарціроўкі цэглы, якія належалі мясцоваму вытворчаму аб'яднанню "Кераміка", а затым пакінулі іх на палатне. На цялежкі наехаў дызель-поезд, што накіроўваўся з Баранавіч у Гродна. Спробы машыніста спыніць састаў шляхам экстраннага тармажэння не ўдаліся. На шчасце, ні машыніст, ні пасажыры не пацярпелі. Аднак лакаматыву нанесены пашкоджанні, кошт якіх — каля васьмі тысяч долараў. Плаціць гэтыя грошы і давядзецца бацькам "дыверсантаў".

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ,**
*БелТА.*



ГАСЦЁЎНЯ

Пачатак на 1-й стар.

**— Нядаўна была на спектаклі "Даратэя", і здалося, што справы ў тэатра ідуць паспяхова: цудоўныя дэкарацыі, касцюмы, добрыя артысты, шмат гледачоў. Ці на ўсіх спектаклях так!**

— Практычна на ўсіх. Вось ужо гады тры, як на нашы спектаклі збіраецца поўная зала гледачоў. Імкнёмся гэтую любоў і надзею апраўдаць. Мы ўвесь час у пошуку. Нядаўна правялі канцэрт "Парад маладых дырыжораў". Запрасілі 7 маладых выпускнікоў нашай кансерваторыі, а таксама Дзмітрыя Вараб'ёва з Санкт-Пецярбурга. Гучала музыка Глінкі, Чайкоўскага, Свірыдава, Хачатурана, Глебава, Шастаковіча, Шчадрына, Гершвіна і іншых. Запрасілі таксама Брэсцкі сімфанічны аркестр. Так што разам ігралі амаль 100 чалавек.

# ДЫРЭКТАР ТЭАТРА — НЕ ЗАГАДЧЫК ГАСПАДАРКІ

По ацэнках тэатралаў, мерапрыемства атрымалася. Прайшоў з поспехам і канцэрт "Шэдзўры класічнага балета". Паставіла яго наш галоўны балетмайстар Ніна Дзьячэнка. Атрымалася вельмі цікавая праграма. У нас перспектыўны галоўны дырыжор Аляксандр Сасноўскі. Нягледзячы на тое, што ён працуе ў тэатры ўжо амаль 20 гадоў, яму самому няма яшчэ і 50-ці.

**— Пашанцавала, што ў тэатры сабраліся такія таленавітыя людзі...**

— Нельга сказаць: пашанцавала. Каб тут сабраліся менавіта такія людзі, трэба было прыкласці пэўныя намаганні. Напрыклад, "Даратэю" паставіў рэжысёр-пастаноўшчык Барыс Лагода. Ён закончыў акцёрскі факультэт Мінскага тэатральнага інстытута, працаваў у беларускіх тэатрах, затым закончыў Інстытут тэатральнага мастацтва ў Маскве, факультэт музычнай рэжысуры. Пасля быў запрошаны працаваць у Новасібірскі тэатр аперэты. А потым мы яго запрасілі ў наш тэатр. Так што "каманду" трэба падбіраць.

**— Ці ёсць у вашым рэпертуары спектаклі на музыку беларускіх кампазітараў?**

— У нас ідзе з поспехам мюзікл "Шклянка вады" беларускага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча па п'есе англійскага драматурга Скрыга, а зусім нядаўна, 15 лiпеня, адбылася прэм'ера мюзікла для моладзі "Пунсовыя ветразі" беларускага кампазітара Валерыя Іванова.

**— Колькі чалавек у трупе тэатра?**

— Па штатнаму раскладу ў нас досыць вялікі калектыў — 450 чалавек: артысты аркестра, балета, салісты-вакалісты, рэжысёры, дырыжоры, балетмайстры, касцюмеры, рабочыя сцэны.

**— Цяжка кіраваць такім вялікім калектывам!**

— Творчы калектыў — складаны арганізм. У кожнага свае прэтэнзіі, амбіцыі. Усякае бывае, але я заўсёды кажу калегам: давайце ўсё спрэчнае вырашаць тут, у калектыве, гледзячы ў твар адзін аднаму, на худсавеце высвятляць нейкія непаразуменні, даказваць сваю правату, а не выносіць праблемы за парог тэатра. Мне здаецца, унутранае жыццё тэатра павінна быць для гледачоў усё ж такі пэўнай тайнай. Я прыхільнік традыцый старога МХАТа, дзе ў свае канфлікты нікога не ўцягвалі. Увогуле канфлікты разбураюць тэатр.

**— Ці адчувае ваш тэатр падтрымку дзяржавы!**

— Амаль усе тэатры свету знаходзяцца на датацыі. Іншая справа, што яны фінансуюцца з розных крыніц. У адных краінах тэатры падтрымліваюць разнастайныя фонды, як, напрыклад, у Амерыцы, у Францыі — дзяржава. Каб тэатр стаў камерцыйным, трэба ісці на нейкія "выкрунтасы": скажам, захоўваць публіку эротыкай. Тэатр, які прытрымліваецца эстэтычных прынцыпаў, не можа быць самаакупным.

**— Ці часта ваш тэатр выязджае на гастролі!**

— Усё ўпіраецца ў фінансы. Мы можам згадзіцца на гастролі толькі пры ўмове, што ўсе выдаткі бярэ на сябе бок, які запрашае. Дарэчы, калі мы гастраліравалі ў Іспаніі, на нашых спектаклях быў поўны аншлаг. Хаця самыя танныя білеты каштавалі каля 50 долараў.

**— Як сёння жывуць артысты, які ў іх заробак!**

— Шкада, але артысты атрымліваюць вельмі малыя зарплаты, асабліва моладзь у балеце — каля 20 долараў. Крыху выратоўваюць гастролі. А наогул праблема ёсць.

**— Рыхтуючыся да інтэрв'ю, я даведалася, што вы аўтар навуковых артыкулаў па праблеме тэатра, кандыдат мастацтвазнаўства, а гэта значыць, грунтоўна ведаеце тэатр, яго тонкасці. На вашых плячах дырэктара шмат арганізацыйных задач.**

— Я скончыў Беларускую кансерваторыю па класу баяна, працаваў выкладчыкам музыкі ў музычнай школе, займаўся пытаннямі культуры ў розных дзяржаўных установах, абараніў дысертацыю па драматычнаму тэатру, выкладаў і цяпер выкладаю на кафедры тэатральнай творчасці Беларускага універсітэта культуры спецкурс па тэатральнаму мастацтву. Чатыры гады працаваў намеснікам дырэктара Рускага тэатра, а потым запрасілі сюды.

Некаторыя думаюць, што дырэктар тэатра — нешта накшталт загадчыка гаспадаркі. Але я ўпэўнены: дырэктар тэатра — гэта чалавек, які павінен зразумець і артыста, і рэжысёра, нешта ўраўнаважыць у адносінах паміж імі. І, безумоўна, чалавек, які жыве тэатрам.

**— Вялікі дзякуй за размову. Гледача не падманеш. Калі ён ідзе ў тэатр, значыць, яму тут падабаецца. Я вiншую вас з новай прэм'ерай і лічу, што яна ўдалася: менавіта пасля яе мне і захацелася ўзяць гэтае інтэрв'ю.**

**Таццяна КУВАРЫНА.**

ПАМЯЦЬ

# СЛЁЗЫ Ў ГРАНІЦЕ



**● Пётр ЗАЯЦ.**

Ураённым цэнтры Дзятлава ўзведзены мемарыяльны помнік дзецям, якія пахаваны на мясцовых могілках. Гранітныя пліты ў чатыры рады, дзве стэлы. На адной — маленькія бронзавыя фігуркі, якія прыхінуліся да жанчыны. Яны хаваюцца не ад ветру і дажджу. Ад смерці. На камені надпіс: "Тут пахаваны больш 70 дзяцей з Ленінграда, Прыбалтыкі, Беларусі, Смаленскай і Арлоўскай абласцей і дзеці Міжнароднага летніка пры санаторыі "Навасельня", замучаныя фашысцкімі акупантамі ў 1943—1944 гг." Тут жа пахавана загадчыца Дзятлаўскага прытулку Валянціна Кеп, якая памерла ў 1945 годзе.

17 чэрвеня 1941 года на Беларускім вакзале ў Маскве сабраліся дзеці, якія ехалі адпачываць на летнія канікулы ў піянерскі лагер "Наваельня". Гэта былі дзеці рэвалюцыянераў, вядомых дзеячаў камуністычных партый і антыфашысцкага падполля Італіі, Германії, Аўстрыі, Чэхаславакіі, Балгарыі, Кітая, Карэі і іншых краін. Бацькі дзяцей на сваёй радзіме праследаваліся за камуністычныя перакананні і антыфашысцкую дзейнасць і таму былі вымушаны са сваімі сем'ямі перабрацца ў Савецкі Саюз. Сярод тых, хто ад'язджаў, былі кітаец Ван Лі, аўстрыйцы брат і сястра Карл і Люцыя Мюніхрэйтэр, Грэта Штадлер і Фердынанд Траўтман, Уладлен Бадзіян, адзінаццацігадовы Іонка Чынгелаў — сын балгарскага камуніста-антыфашыста Пятра Чынгелава, немка Ірма Эверс, негр Джым Камагораў, румын Уладзімір Буйкан-Макараў, югаслаўка Роза Авербах, чэх Эрык Гаруноў, кітаянка Чы Ін — дачка маршала Джу Дэ і іншыя.

Піянерскі лагер у г. п. Навасельня размяшчаўся ў памяшканні сярэдняй школы. Месца адпачынку было цудоўнае: сасновы лес, луг, а пад гарой такая празрыстая рачулка!..

Нядзельнай раніцай 22 чэрвеня 1941 года дзеці разам з мясцовымі падлеткамі пайшлі купацца на рэчку. Яны нават не паспелі нацешыцца ласкавым, пяшчотным сонейкам, як раптам загудзеў самалёт. Ён нізка ляцеў над зямлёй, на яго крылах відне́ліся чорныя крыжы. А праз некалькі хвілін на чыгуначнай станцыі прагрымелі выбухі. Так пачалася вайна. І ў гэты страшны час дзеці апынуліся далёка ад родных.

Але пра іх не забылі. Калі стала вядома пра пачатак вайны, у Мінск, Баранавічы, Навагрудак паляцелі тэлеграмы, а на другі дзень з Мінска выехаў аўтобус, але ён так і не дабраўся да Навасельні: толькі пазней стала вядома, што гэты аўтобус быў перакулены выбуховай хваляй.

Мясцовыя жыхары, у тым ліку і выхавальнікі, у першыя дні вайны спешна эвакуіраваліся. З дзецьмі ў чаканні транспарту з Масквы засталася толькі адна жанчына — цётка Мальвіна, былая кухарка лагера. У першы ж дзень вайны яна ўзяла пяцярых самых маленькіх — Джыма Камагорава, Эрыка Гарунова, Уладлена Бадзіяна, Ірму Эверс і Валодзю Марсіна — і пайшла да чыгункі, каб адправіць іх у Маскву. Але цягнікі і машыны былі перапоўнены, і дзяцей ніхто не рашаўся браць. Нарэшце ў адну з машын, якая везла параненых, удалося пасадзіць траіх самых маленькіх: Джыма, Эрыка і Уладлена. Іх узяў з сабой маёр Гергіеўскі. З Ірмай і Валодзем Мальвіна вярнулася назад.

Як пасля стала вядома, праз некалькі дзён абоз з раненымі апынуўся ў варожым тыле. Дзеці ва ўзросце 8—9 гадоў засталіся адны. Навокал ляжалі параненыя і забітыя, валяліся перавернутыя ад выбухаў аўтамабілі, іншая ваенная тэхніка, вазы. Гэта было так страшна, што дзеці, забыўшыся пра знямогу, голад і смагу, кінуліся адсюль. Яны беглі на ўсход, насустрач свайму лёсу.

Дайшлі да Мінска. Як непадобны ён на той Мінск, які яны да гэтага бачылі: вуліцы завалены пабітай цэглай, замест дамоў дымяцца руіны. Паўсюдна — чужая мова, салдаты ў шэрых і чорных мундзірах. Дзеці хаваліся ў старых цыстэрнах, руінах і толькі ноччу вылазілі адтуль, каб знайсці сярод адходаў што-небудзь паесці. У час адной з такіх вылазак Уладлена, Джыма і Эрыка схапіла начная варта.

Працяг будзе.

РАДАВОД



У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі арганізавана выстава работ пад назвай "Рознае". Аўтары Аляксандр і Ганна Сідаравы — людзі вядомыя. Ён галоўны мастак, яна мастак-пастаноўшчык беларускага тэатра "Лялька", неадназоўныя ўдзельнікі розных мастацкіх выстаў. На гэты раз з імі дэбютавала і іх дачка Марыя, якая выставіла свае графічныя работы.

НА ЗДЫМКАХ: Маша СІДАРАВА; Аляксандр і Ганна СІДАРАВЫ.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**



ВЕРСІІ

**У З'ЯЎЛЕННІ БАБРУЙСКАГА ПОЛТЭРГЕЙСТА МОГУЦЬ БЫЦЬ ВІНАВАТЫЯ ЯЗЫЧНІЦКІЯ ПАХАВАННІ.** Такая выснова напрошваецца з праведзенага супрацоўнікамі магілёўскай абласной газеты "Дняпроўскі тыдзень" журналісцкага расследавання.

Нагадаем, што ў ноч з 13 на 14 ліпеня ў адным з дамоў Бабруйска твварыліся дзіўныя рэчы: са столі то лілася вада, то сыпаўся пясок, самастойна перамяшчалася мэбля, зачыняліся і адчыняліся дзверы, успыхвала і гасла святло, загараліся фіранкі.

У адным з апошніх нумароў магілёўскай абласной газеты "Дняпроўскі тыдзень" дырэктар краязнаўчага музея Бабруйска Наталля Арцёмчык паведаміла, што ў раёне завулка, дзе з'явіўся полтэргейст, некалькі гадоў таму на беразе ракі Бабруйкі мінскія археолагі знайшлі старажытныя агачы і рытуальныя пахаванні II—III стагоддзяў нашай эры. Было знойдзена 12 такіх агачоў і выказана версія, што ў цэнтры ўтворанага імі паўкруга знаходзіўся старажытны язычніцкі ідал, дзе праводзіліся рытуальныя прынашэнні. Таму не выключана, што бабруйскі полтэргейст нейкім чынам звязаны са старажытным капішчам. Нейкіх рацыянальных тлумачэнняў здарэння няма.

**Канстанцін УВАРАЎ,** БелаПАН.

## БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ

# ЗДАБЫТКІ ДЗЯРЖАЎНАГА ШЛЯХУ

### БЕЛАРУСКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ РУХ У ЛІТВЕ XX СТАГОДДЗЯ

● Леў МІРАЧЫЦКІ.

Рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гадоў Іван Луцкевіч сустрэў у Мінску, куды вярнуўся пасля заканчэння навучання ў вышэйшых установах. Ён выступаў на рабочых мітынгах і сходах, падрыхтоўваў і расклейваў лістоўкі і адозвы Беларускай рэвалюцыйнай грамады, якая была перайменавана ў Беларускую сацыялістычную грамаду. Палітычная дзейнасць, накіраваная супраць самадзяржаўя, не магла застацца не заўважанай мясцовай паліцыяй. У сярэдзіне 1906 года быў аддадзены загад аб арышце. Шчаслівая выпадковасць дапамагла Івану Луцкевічу пазбегнуць судовай расправы, але ён быў вымушаны перайсці на нелегальнае становішча і неўзабаве перабрацца ў Вільню, дзе пачаўся новы, найбольш плённы этап яго грамадска-палітычнай і культурнай дзейнасці.

Пытанне аб заснаванні рэгулярнай легальнай газеты на беларускай мове ўжо даўно абмяркоўвалася ў асяроддзі прагрэсіўнай інтэлігенцыі краю. Але да 1906 года царскі ўрад сурова караў за распаўсюджванне беларускага друкаванага слова. Аднак першая руская рэвалюцыя, якая падарвала асновы грамадскага ладу самадзяржаўнай Расіі, знесла і гэтую афіцыйную забарону. 1 верасня 1906 года ў Вільні на васьмі старонках невялікага фармату адначасова лацінкай і кірыліцай выйшаў нумар газеты "Наша Доля". Вестка аб легальнай беларускай газеце, напісанай па-беларуску, імгненна пракацілася па ўсім Паўночна-заходнім краі. На вуліцах Вільні газету бралі нарасхват, чыталі цэлымі гуртамі, згадвалі пазней старажылы горада. Калі ж газета ішла ў правінцыю, сяляне сталі прысылаць у рэдакцыю лісты з самымі добрымі водгукамі, глыбокай падзякай. Праграма газеты падкупляла сваёй непасрэднасцю і шчырасцю: "Пісаць мы будзем для вёскі і будзем бараніць справы вясковых людзей. Лічачы найбольшым ворагам цемнату і бяспраўнае становішча (палажэнне) мужыка, мы аб'яўляем вайну ўсім цёмным сілам, каторым дзяля карысці сваёй вялікая выгада трымаць васьмімільённы народ беларускі ў няволі і паняверцы, баламуціць і дурыць яго. У вялікі момант, калі ўсе народы гасударства расійскага, аб'явіўшы вайну старым парадкам, напрагаюць усе свае сілы, каб дабіцца свабоды і лепшае долі, мы будзем разам з імі".

І ўсё ж па-сапраўднаму разгарнуць сваю дзейнасць газета дэмакратычнага кірунку не змагла. Даследчыкі гісторыі развіцця культуры ў родным краі справядліва адзначалі, што яе задушыла "цэнзурная пятля". Чатыры нумары былі канфіскаваны, а затым віленская судовая палата вынесла рашэнне аб спыненні выдання.

На замену прыйшла "Наша Ніва". Праз яе Іван Луцкевіч імкнуўся будзіць у беларусах пачуццё чалавека і грамадзяніна, голасна гаварыць аб яго патрэбах і правах. Яму хацелася, каб газету чыталі не толькі ў вёсках і мястэчках, але і ў гарадах. Для гэтага ён сам аб'ездзіў усю Беларусь. Ніхто ў рэдакцыі так не ведаў самых аддаленых куткоў роднага краю, як Іван Луцкевіч.

Дзякуючы стараннем Івана Луцкевіча, "Наша Ніва" стала надзвычай папулярнай як у родным краі, так і ў многіх гарадах і губернях царскай Расіі. Яе падпісчыкі былі ў Празе, Брно, Парыжы, Льежы, некаторых гарадах Злучаных Штатаў Амерыкі.

Вялікі ўклад "Нашай Нівы" ў развіццё і станаўленне новай беларускай літаратуры. Яна не толькі выяўляла і ўзгадоўвала літаратурныя таленты, але давала ім крылы для творчага ўзлёту, была, па трапным азначэнні польскай даследчыцы Аляксандры Бергманавай, свайго роду "універсітэтам і апекуном". Класік беларускай літаратуры Якуб Колас з удзячнасцю ўспамінаў, што выхад у свет гэтай газеты быў найвялікшай падзеяй у ягоным жыцці. На старонках "Нашай Нівы" друкаваліся творы Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі. Тут з першымі творамі выступілі Канстанцыя Буйло, Гальяш Леўчык, Янка Журба, Максім Гарэцкі, Алесь Гурло, Уладзіслаў Галубок і многія іншыя паэты, празаікі і драматургі. З дзейнасцю "Нашай Нівы" звязана ажыўленне кнігадрукавання і журналістыкі. Выключная роля належыць ёй у выпрацоўцы і ўзбагачэнні мовы. Шмат рабіла газета для папулярызацыі нацыянальнай культуры, развіцця тэатра і музыкі, вуснай народнай творчасці. Яна паслядоўна і абгрунтавана выступала за правы беларусаў мець школу на роднай мове, ніколі не мірылася з імперскай палітыкай царызму.

Іван Луцкевіч быў вялікім энтузіястам пошукаў старасветчыны. Амаль усё свядомае жыццё збіраў старадрукі, летапісы, скарбы выяўленчага і ўжытковага мастацтва, узоры народнага адзення і іншыя памяткі гісторыі і культуры свайго народа. Усё гэта рабіў з марай стварыць першы беларускі нацыянальны музей. Ён меў і непасрэднае дачыненне да абвяшчэння 25 сакавіка ў Мінску Радай рэспублікі незалежнай Беларусі. У пачатку 1919 года хворы на сухоты, ён ажыццявіў паездку на лячэнне ў санаторый польскага горада Закапанэ, аднак было ўжо позна. 20 жніўня ён памёр.

Працяг. Пачатак у № 31.

## ЛІТАРАТУРНЫЯ СТАСУНКІ

# ВІЛЕНСКІЯ СУСТРЭЧЫ Валерыя БРУСАВА: Янка КУПАЛА, БРАТЫ ЛУЦКЕВІЧЫ

● Аляксей КАЎКА *(Масква)*.

У летапісе міжнароднага прызнання адраджэнскай беларускай літаратуры дзве вялікія постаці расійскага парнаса выдзяляюцца асабліва: Максім Горкі і Валерый Брусаў. Пра творчую пераклічку гэтых майстроў з пісьменнікамі Беларусі ёсць багатая літаратура, у тым ліку і "Нарысы па гісторыі беларуска-расійскіх літаратурных сувязей" (Кн. 2. Мн., 1994). На фоне ўласна паэтычных, мастацкіх аспектаў данай тэмы даследчыкі, як правіла, падкрэсліваюць маральна-этычны момант. І не выпадкова. Духоўная салідарнасць знакамітых рускіх пісьменнікаў з беларускімі братамі па пяру тады, у пачатку стагоддзя, была па-свойму значная, паказальная. Асабліва, калі ўлічыць тагачасныя безупынныя наскокі разнашэрснай шавіністычнай чэрні на нацыянальнае адраджэнне нашчадкаў старажытных крывічоў. Менавіта гэтыя "салідарныя" абставіны і адцяняюць тую крыніцу, што мы публікуем, — гэта паштоўка, пасланая з Вільні ў Варшаву, на часовы адрас В. Брусава.

З паштоўкі, акрамя ўсяго, даведваемся пра новых, дагэтуль невядомых актыўных удзельнікаў беларуска-расійскага культурнага дыялога. І, напэўна, галоўнае: у творчым рэестры ідэолагаў і лідэраў беларускага руху Івана і Антона Луцкевічаў знаходзім яшчэ адзін інтэрнацыянальны, канкрэтна прарасійскі акцэнт.

Але ўсё па парадку. У сярэдзіне жніўня 1914 года В. Брусаў затрымаўся на некалькі дзён у Вільні на дарозе на фронт у якасці ваеннага карэспандэнта газеты "Русские ведомости". Тады ён упершыню пазнаёміўся з Янкам Купалам, знайшоўшы ў паэтычных вопытах беларускага калегі "шмат цудоўнага, сапраўднага", што і пацвердзіў перакладам на рускую мову некалькіх Купалавых вершаў — "На Купалле" ("На Купалье"), "У начным царстве" ("В ночном царстве"), "Адцвітанне" ("Отцветание") — найбольш сугучных вобразна-стылістычнаму светаўспрыманню рускага паэта-сімваліста. Пераклады адразу ж былі надрукаваны ў віленскай "Вечерней газете" (22, 25 жніўня 1914 года). Аўтар "Шляхам жыцця", "Адвечнай песні" выказаў удзячнасць Брусаву на падораных яму паэтычных зборніках.

У тыя ж дні, згадвала пазней жонка Янкі Купалы Уладзіслава Луцэвіч, рэдакцыі "Вечерней газеты" і "Нашай Нівы" арганізавалі сяброўскую вечарыну ў гонар знакамітага маскоўскага госця. Усе гэтыя факты падрабязна разгледжаны ў манаграфіі Т. Ліакумовіча "Янка Купала і руская літаратура. Шматграннасць творчых узаемасувязей" ч. 1, (Брэст, 1996). Але за дужкамі і гэтай грунтоўнай працы апынуліся некаторыя важныя, па-свойму таксама значныя фігуры з віленска-беларускага акружэння В. Брусава. Перш за ўсё маю на ўвазе братоў Луцкевічаў. Тры іх паштоўкі захоўваюцца ў брусаўскай эпісталярнай калекцыі Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (РДБ), знаёмай, як відаць па бібліяграфічных спасылках, аўтару толькі што названай манаграфіі. Лаканічны тэкст гэтых паштовак, асабліва першай з іх, змяшчае ў сабе прамыя і ўскосныя сведчанні пра двух знакамітых дзеячаў-адраджэнцаў — верагодных ініцыятараў і арганізатараў "віленскага" творчага сыходжання.

Нельга пры гэтым не адзначыць ролю, пакуль недаацэненай гісторыкамі беларускага адраджэння, згаданай "Вечерней газеты", якую выдаваў І. Луцкевіч ("Нёман", 1995, № 1, с. 135).

Газета, не ў прыклад іншым рускамоўным выданням краю, праяўляла нямала добразычлівасці і паслядоўнасці ў папулярызацыі беларускай культуры, нацыянальна-адраджэнскіх ідэй беларусаў. (Такія акалічнасці не прайшлі міма пільнай увагі тагачаснай ахранкі. У аналітычнай запісцы пра беларускі рух, дасланай 7 верасня 1913 года начальнікам віленскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў адпаведную інстанцыю ў Санкт-Пецярбург, указвалася на кансалідацыю беларускага нацыянальнага актыву "каля свайго новага легальнага органа "Вечерняя газета", якая... праводзіць ідэі беларускага нацыяналізму на аснове строга дэмакратычных прынцыпаў". Магчыма аналітыкі ад палітычнага вышуку і пераацанілі "кансалідуючыя" заслугі віленскай "Вечёркі", затое з надзвычайнай дакладнасцю вызначылі ролю "Нашай Нівы" як галоўнай выразніцы ідэі нацыянальнага адраджэння беларусаў"). На старонках "Вечерней газеты" выступалі вядомы крытык-нашанівец Лявон Гмырак (М. Бабровіч), тыя ж браты Луцкевічы — часцей з невялікімі інфармацыйнымі заметкамі (без подпісу) або рэдакцыйнымі артыкуламі. Некаму з іх, відаць, належыць і гэтыя радкі: "На днях у Вільні гасціў адзін з карыфееў рускай паэзіі Валерый Якаўлевіч Брусаў. Знаёмячыся з жыццём горада і краю, паэт з асаблівай увагаю спыніўся на творчасці беларускага народа, які апошнім у славянскай сям'і ўступіў на шлях нацыянальнага адраджэння. Больш за ўсё зацікавіла Брусава новая беларуская паэзія..." ("Вечерняя газета", 1914, 22 жніўня). Далей паведамлялася пра згаданыя раней пераклады купалаўскіх твораў.

Віленская адысея Брусава была непрацяглай, але памятнай сваімі вынікамі. Пра яе нагадае чатырохмоўная газета "День искусства", "Dzień artystyczny", "Mieno dziena", "Дзень штукарства" (8 снежня 1914) — унікальная анталогія гуманістычнай, антываеннай скіраванасці з паэтычнымі тэкстамі рускага В. Брусава, палякаў К. Гжымала, Т. Арлоўскага, літоўцаў В. Жвікаса, М. Чурлёніса (дзённікавыя запісы), беларусаў Я. Купалы, З. Бядулі, А. Гаруна.

Сваёй зацікаўленасцю беларускай творчасцю "самы культурны паэт" Расіі ўслед за Максімам Горкім, перакладчыкам купалаўскага шэдэўра "А хто там ідзе?...", прыкметна павышаў эстэтычную і грамадзянскую планку пераадолення (асэнсавання) рускай культурай нацыянальна-духоўнай самабытнасці суседняга народа. На той час для расійскай інтэлектуальнай эліты, не гаворачы пра шырокага чытача, народа малавядомага і, калі без хітрыкаў, малацікавага. Зразумелы адсюль і намер Брусава падрыхтаваць артыкул пра беларускую літаратуру, пра што ён паведамляў з Варшавы ў адным з пісьмаў да сваёй жонкі. Магчыма, пад даную задуму віленскімі беларусамі і былі дасланы яму адпаведныя кнігі, пра якія ніжэй нагадвае І. Луцкевіч. На жаль, задуманы артыкул не адбыўся.

Але меладычнае беларускае слова запаланіла рускага паэта. Пра ўрок Купалавага майстэрства В. Брусаў незнарок нагадае маладому Уладзіміру Дубоўку на ўступным экзамене ў маскоўскі Літаратурны інстытут (1921). У 1943 годзе некалькі дзесяткаў беларускіх выданняў з асабістай бібліятэкі паэта будуць перададзены яго жонкаю І. Брусавай у літаратурны музей Янкі Купалы, які ствараўся ў той час.

Застаецца удакладніць некаторыя прозвішчы з крыніцы, якую публікуем ніжэй. Мечыслаў Рудзінскі — польскі літаратар; Ю. Сперанскі, І. Манькоўскі — паплечнікі братоў Луцкевічаў на нацыянальна-асветніцкай працы ў Вільні.

Асноўны тэкст на паштоўцы (з выяўленнем на вонкавым баку віленскага Кафедральнага касцёла, фота Я. Булгака) напісаны І. Луцкевічам, адрас — А. Луцкевічам, не датаваны; паштовы штэмпель не прачытваецца. Удакладняючым арыенцірам даты адпраўлення могуць служыць агульныя часавыя рамкі знаходжання В. Брусава ў Варшаве — канец жніўня 1914— май 1915 года. Цытуецца ў арыгінале:

"Паважаны пане Валеры!

Засылаю Вам ад усіх землякоў вялікае дзякуй за Вашу добрую ахвоту пазнаць цярністы шлях беларускіх паэтаў і жычу Вам усяго найлепшага, а також Вашаму прыяцелю Мечиславу Рудзинскаму наш паклон. Вашы Іван Луцкевіч (*ніжэй асабістыя подпісы*) — Ант. Луцкевіч, Ю. Сперанскі, Манькоўскі.

Чы кніжкі пасланыя на post-restante *(да патрабавання франц.)* дайшлі?

Варшава, Школьная 11, Французская гасцініца, Валерыю Якаўлевічу Брусаву."

Захоўваюцца таксама тых самых аўтараў яшчэ дзве прывітальныя паштоўкі на рускай і польскай мовах на той жа адрас.









ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# БАГАРОДЗІЦА, ЯКАЯ ВЫРАТАВАЛА РАЖКОЎКУ

СВЕДКАМІ ГЭТАГА ЦУДА СТАЛІ ДЗЕСЯТКІ ЛЮДЗЕЙ РОЗНЫХ УЗРОСТАЎ, ЯКІЯ ШЧЫРА ВЕРУЮЦЬ, ТЫЯ, ШТО СУМНЯВАЮЦЦА, І ТЫЯ, ШТО НЕ ВЕРУЮЦЬ. ІХ ШЧЫРЫЯ РАСКАЗЫ ВЫКЛЮЧАЮЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ФАЛЬСІФІКАЦЫІ.

### ПАРТЫЗАНЫ

Ражкоўка трапіла ў "чорны спіс" вёсак, прыгавораных фашыстамі да знішчэння "за сувязь з партызанамі". Абвінавачанне было ў агульным абгрунтаваным. У Ражкоўку часта наведваліся "байцы ляснога воінства". І міласэрныя сяляне не толькі кармілі іх, але і ахвотна давалі цёплае адзенне, абутак, дзяліліся медыкаментамі. Пра гэта данёс фашыстам здраднік, які працаваў у Ражкоўцы пад выглядам тэхніка-будаўніка.

Дарэмна, адчуўшы подых бяды, стараста Ражкоўкі, уплывовы і сумленны ў адносінах да аднавяскоўцаў мужычок Дарафей Пратасевіч аб'явіў немцам, што богабаязны люд вёскі жадае адрадзіць страчаныя з прыходам савецкай улады традыцыі праваслаўя, і нават пачаў будаваць у вёсцы царкву. Лёс "вінаватай" перад гітлераўцамі вёскі [illegible]ко немагчыма было змяніць.

### КАРНІКІ

Яны ехалі ў Ражкоўку на 20 аўтамашынах і чатырох танкетках раніцай 28 верасня, роўна праз тыдзень пасля таго, як веруючыя праваслаўныя беларусы адзначалі свята Нараджэння Багародзіцы. Адначасова вёску акружылі паліцаі. Людзей выгналі з хат, і смяротна бледны стараста перадаў ім загад фашыстаў: дзяцей да 12-гадовага ўзросту аддзяліць ад усіх і пасадзіць на спецыяльна выдзеленыя драбіны. Маладым людзям да 25 гадоў — грузіцца ў машыны. Усім астатнім ісці на край сяла. Лёс ражкоўцаў стаў відавочным. Калі наконт дзяцей яшчэ заставалася надзея — па заступніцтву старасты іх маглі пакінуць у жывых. Калі падлеткі і моладзь маглі спадзявацца, што проста адправяць на работы ў Германію, то наконт лёсу дарослых жыхароў вёскі сумнявацца не даводзілася: іх расстраляюць. Нездарма немцы загадалі 21 з мужыкоў ражкоўскіх узяцца за рыдлёўкі. Нездарма атрымалі яны загад капаць за вёскай вялізную яму — шырынёй 4, даўжынёй 24, глыбінёй 2,5 метра...

Іван СКАЛКОВІЧ: Калі яма была гатова, загадалі нам у ёй заставацца. Як тут было не здагадацца, што выкапалі мы магілу для сябе. Сядзелі ў яме і думалі пра тое, каб доўга нас не каталі. У аднаго з нас была пляшка гарэлкі, і ён пусціў яе па кругу. Стомленых і галодных, нас хутка разабрала саракаградусная, і некаторыя пачалі ўголас выказваць свае думкі: "Мы аддадзім Богу душы, а фашыстам — дулі".

Марыя ПРАТАСЕВІЧ: Калі мы сабраліся на краі вёскі, то раптам апынуліся ў акружэнні ўзброеных карнікаў. Усе адчулі смяротную небяспеку... Нас было шмат — у вёсцы ж 100 двароў, у кожнай хаце — ад двух да пяці і болей чалавек. Мы сталі шаптаць малітвы, хрысціцца, уяўляючы сябе ўжо нябожчыкамі. Надзеі, што хто-небудзь выратуецца, ні ў кога не было...

### ГЕР МАЁР

Пакаранне смерцю жыхароў Ражкоўкі фашысты вырашылі зрабіць "па ўсіх правілах", у дакладна вызначаны для таго час і з папярэднім прачытаннем прыгавору асуджаным. Прыкладна чатыры гадзіны пасля таго, як сялян сагналі да ямы, на краі вёскі прызямліўся самалёт са свастыкай на крылах. Афіцэр, які прыляцеў на ім, прывёз з Белавежы тэкст прыгавору на польскай мове. З гэтым страшэнным дакументам тут жа азнаёмілі прыгавораных. Але чамусьці выконваць загад не спяшаліся. Нямецкі самалёт узляцеў і хутка растаяў у небе. Прайшло паўгадзіны, гадзіна, паўтары гадзіны. Камандзір карнага батальёна ўсё часцей пазіраў на свой ручны гадзіннік. Відаць было, што чакае пэўнага часу. Нарэшце, відаць, час гэты настаў. Немец падаў сігнал. Людзей падагналі да самага краю ямы. І тут у небе зноў пачуўся роў матораў. Той жа самы самалёт прызямліўся на тым жа месцы. З яго выйшаў той жа афіцэр, што зачытваў прыгавор. На гэты раз не адзін, а з афіцэрам рангам вышэй. Жыхары Ражкоўкі, калі згадваюць гэтыя падзеі, называюць апошняга "маёрам". Гэты маёр, аказваецца, быў у самалёце і першы раз, і гэта менавіта па яго загаду расстрэл быў адкладзены на дзве гадзіны. Гэты час маёр выкарыстаў для таго, каб злятаць у стаўку і дабіцца для ражкоўцаў памілавання.

— На гэты раз вас расстрэльваць не будзем, — пераклалі словы маёра людзям, якія ўжо развіталіся з жыццём. — Але яма ўжо выкапана, і калі вы не перастанеце падтрымліваць сувязь з партызанамі, то будзеце ляжаць у ёй. Дзяцей вам вернем. Працягвайце будаваць сваю царкву.

Здзіўленыя незвычайным паваротам падзей вяскоўцы "радаваліся да слёз". Яны не сумняваліся, што іх выратаванне адбылося па волі Усявышняга, які пачуў адчайныя перадсмяротныя малітвы. Ці трэба здзіўляцца, што да зімы царква ў вёсцы была пабудавана. На адкрыццё яе прыехаў на аўтамашыне маёр, які заступіўся за ражкоўцаў. Ён прысутнічаў на богаслужэнні. А ў хуткім часе перадаў для царквы выратаванай вёскі дзіўную ікону — выразаную з дрэва ў поўны рост і пафарбаваную ў паўправаслаўнай-паўкаталіцкай манеры Дзеву Марыю з дзіцем на руках.

— Гэта яна выратавала вас, — загадаў перадаць ражкоўцам маёр.

### МАЦІ БОСКАЯ РАЖКОЎСКАЯ

Што ж хавалася за гэтымі таямнічымі словамі? Не менш таямнічая гісторыя.

Аказваецца, калі фашысцкі самалёт вёз у Ражкоўку прыгавор, сумуючы гер маёр глянуў у ілюмінатар. І ... аслупянеў ад нечаканасці: на аблоках стаяла дзіўнай прыгажосці жанчына з дзіцем на руках і паказвала рукой на зямлю. Падумаўшы, што яму гэта проста здаецца, гітлераўскі афіцэр заплюшчыў вочы, пачакаў некалькі хвілін і зноў выглянуў у ілюмінатар. Багародзіца не знікла. Толькі яшчэ больш патрабавальна паказвала рукою на зямлю. Гер маёр зразумеў: яна загадвае адмяніць пакаранне ражкоўцаў.

У памяць пра сваю містычную сустрэчу з Багародзіцай маёр загадаў нейкаму нямецкаму салдату, які быў нядрэнным мастаком, выканаць ікону для царквы ў Ражкоўцы. Салдат гэты якраз лячыўся ў шпіталі пасля сур'ёзнага ранення. Гавораць, як толькі ўзяўся за працу над іконай — адчуў незвычайны прыліў сіл і вялікае натхненне. Да таго моманту, як ікона была ім завершана, ён поўнасцю вылечыўся.

Ражкоўская Багародзіца — самая вялікая святыня для жыхароў выратаванага сяла. Кожны год 28 верасня яны адзначаюць дзень, у які за іх заступілася сама Царыца Нябесная. І яны свята вераць: нябёсы захавалі жыццё і таму маёру, які стаў дбайным выканаўцам іх волі.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.**

ЮБІЛЕІ

● **Раман КАБЯК.**

**Сваё 85-годдзе адзначае сёлета настаяцель Азяцкай Свята-Мікалаеўскай царквы, што ў Жабінкаўскім раёне, айцец Іаан (Іван Петручук). У сваім храме, помніку 1867 года, ён нясе службу 53-ці год. Людзі прыходзяць да айца Іаана ў нялёгкую хвіліну жыцця, а часам і проста як да цікавага суразмоўцы.**

**НА ЗДЫМКУ: айцец Іаан.**



ГУТАРКІ АБ ВЕЧНЫМ

# АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ ХРЫСЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ

## (Х—ХХ СТАГОДДЗІ)

● Уладзімір КОНАН, *доктар філасофскіх навук.*

Пасля бунту ў Віцебску супраць уніі і забойства уніяцкага архіепіскапа Ісафата Кунцэвіча (1623), аднаўлення праваслаўнай іерархіі, яе афіцыйнага зацвярджэння Соймам (1633) на Беларусі стабілізаваліся тры асноўныя канфесіі: праваслаўная (пад назваю Руская праваслаўная царква) і дзве каталіцкія — Рыма-каталіцкая заходняга абраду і Каталіцкая царква ўсходняга абраду (Уніяцкая царква). Пратэстанцкія абшчыны і стараверская царква (галоўным чынам, выхадцы з Расіі пасля Ніканаўскай рэформы Рускай царквы 1652—1666) займалі лакальнае месца ў Беларусі.

З другой паловы XVII стагоддзя пачаўся трэці, **дагматычны** этап у гісторыі хрысціянства на Беларусі, які працягваўся да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. Амаль два стагоддзі адбывалася палітызацыя палярызаваных праваслаўя і каталіцтва, русіфікацыя першага і паланізацыя другога. Сярэднюю пазіцыю як "трэцяя духоўная сіла" занімала Уніяцкая царква: у ёй таксама паступова страчваліся нацыянальныя традыцыі, абрад набліжаўся да рыма-каталіцкіх канонаў. Аднак як царква пераважна сельскага люду — сялянства і засцянковай шляхты — унія захавала элементы народнай культуры і мовы. Не выпадкова з уніяцкіх сем'яў у першай палове XIX стагоддзя выйшлі першыя прыхільнікі беларускага нацыянальнага адраджэння. Галоўнымі дзеячамі Праваслаўнай царквы, прыхільнікамі далучэння Беларусі да Расіі былі спачатку магілёўскі архіепіскап Георгій Каніскі (1717—1795), а пасля ліквідацыі уніі і далучэння уніятаў да Рускай праваслаўнай царквы (1839) — былыя уніяцкія епіскапы Іосіф Сямашка і Антоній Зубко.

Пасля рэвалюцыі 1917 года і падзелу Беларусі паміж Расіяй і Польшчаю паводле Рыжскага міру (1921) цэнтр рэлігійна-асветніцкай дзейнасці перамясціўся ў Заходнюю Беларусь, далучаную да Польшчы. Ва ўсходняй Савецкай Беларусі ў выніку антырэлігійнага заканадаўства і ўзвядзення "навуковага" атэізму ў ранг афіцыйнай палітыкі большасць праваслаўных цэркваў і ўсе каталіцкія касцёлы былі закрыты, рэлігійныя арганізацыі пазбаўлены правоў юрыдычнай асобы, страчвалі права на валоданне ўласнасцю. Рэпрэсіі 1920-х—1930-х гадоў прычыніліся да падаўлення хрысціянскай іерархіі: большасць святароў выехалі за мяжу, значная частка іх расстраляна альбо выслана на катаргу і ў ссылку. Вынік пасляваеннай хвалі антырэлігійнай палітыкі: за перыяд з 1950 па 1980 год у БССР было закрыта каля тысячы культавых будынкаў, а колькасць усіх (хрысціянскіх і нехрысціянскіх) рэлігійных арганізацый скарацілася з 1 678 да 696.

Праваслаўная царква абмяжоўвалася польскімі ўладамі; у Заходняй Беларусі зачыняліся храмы, манастыры. Аднак там яна не праследавалася па ідэалагічных меркаваннях і паступова "ўпісвалася" ў кантэкст беларускай культурнай традыцыі. Цэнтрамі праваслаўя заставаліся Вільня і Супрасль (цяпер уваходзіць у склад Беластоцкага ваяводства Польшчы), дзе захаваліся помнікі праваслаўя: **Супрасльская царква-крэпасць** (пабудавана ў пачатку XVI стагоддзя, сёння аднаўляецца) і праваслаўны манастыр пры ёй, Супрасльскі рукапіс (зборнікі жыццяў і пропаведзей XI стагоддзя, Летапісны зборнік XVI стагоддзя і іншыя). Вільня, іншыя гарады, мястэчкі і вёскі Заходняй Беларусі сталі цэнтрамі **беларускага каталіцкага адраджэння** — вяртання каталіцкай канфесіі, яе іерархаў і вернікаў да беларускай мовы, нацыянальнай культурнай традыцыі. Лідэрам гэтага руху быў беларускі ксёндз, гісторык і дзеяч культуры Адам Станкевіч (1891—1949) і яго супрацоўнікі, заснавальнікі партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" (1917—1940), газеты "Беларуская крыніца" (1917—1940), часопіса "Хрысціянская думка" (1927—1940).

Нацыянальнае адраджэнне Каталіцкага касцёла і Праваслаўнай царквы працягваецца і сёння. А пачаўся гэты пяты этап гісторыі хрысціянства ў гады дэмакратычнай перабудовы (другая палова 1980-х гадоў) і асабліва пасля абвяшчэння суверэннай Рэспублікі Беларусь (верасень, 1991) і прыняцця закона "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый" (снежань, 1992). За перыяд з 1988 года па студзень 1998-га колькасць праваслаўных абшчын вырасла з 370 да 1 081, рымска-каталіцкіх — з 112 да 392. Адраджаюцца манастыры: на пачатак 1997 года ў Беларусі было 5 мужчынскіх і 6 жаночых манастыроў, сем праваслаўных брацтваў, некалькі сястрынстваў міласэрнасці. Аднавілася Мінская праваслаўная духоўная семінарыя ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры (1989), адкрыта вышэйшая каталіцкая духоўная семінарыя ў Гродне. Пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Мінску заснаваны Багаслоўскі факультэт (1993).

Выходзяць шматлікія праваслаўныя газеты і часопісы ("Вестники" Экзархата, Мінскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Полацкай епархіяў, "Царкоўнае слова", "Праваслаўе ў Беларусі і свеце" і іншыя). Беларуская каталіцкая грамада выдае часопіс "Хрысціянская думка", пры Мінскім катэдральным саборы выходзіць часопіс "Наша вера". За 1988—1997 гады рымска-каталіцкай царкве вернуты 192 храмы, на пачатак 1998 года створана 8 брацтваў і жаночых манаскіх суполак у Гродне, Лідзе, Навагрудку, Браславе, іншых гарадах. У 1991 годзе створаны тры каталіцкія дыяцэзіі — Мінска-Магілёўская, Гродзенская, Пінская. Каталіцкі касцёл у Беларусі ўзначальвае мітрапаліт Казімір Свёнтак, узведзены Ватыканам у сан кардынала. З першых дзён астраўком далучэння вернікаў да беларускай мовы стаў касцёл св. Сымона і Алены ў Мінску. Пробашч касцёла Уладзіслаў Завальнюк кожны тыдзень вядзе радыёпраграму "Голас душы". Касцёл адраджае пры храмах дзейнасць тэатральных і харавых калектываў.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 25, 29.

АМАТАРЫ ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ



Мужчынскі вакальны ансамбль пад кіраўніцтвам Уладзіміра Раговіча, створаны з выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер Беларуская акадэмія музыкі) усяго два гады назад, стаў вядомы дзякуючы выкананню харавой, у тым ліку і духоўнай, класікі, а таксама беларускіх, рускіх, украінскіх, нямецкіх народных песень. Пастаянна выступае з канцэртамі ў Беларусі і Германіі.

НА ЗДЫМКУ: вакальны ансамбль пад кіраўніцтвам Уладзіміра РАГОВІЧА ў час выканання царкоўных песнапенняў у Свята-Духавым кафедральным саборы.

**Фота Валерыя ХАРЧАНКІ, БелТА.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### КІРГІЗІЯ

Паважаная рэдакцыя!

У горадзе Такмаку, што ў Кіргізіі, жыве добры і прыгожы чалавек — Алмаз Сейтказіеў. Ён і паэт, і перакладчык, і кампазітар, і музыкант, і яшчэ валодае вельмі прыгожым голасам. У 1998 годзе ён пераклаў на кіргізскую мову беларускую народную песню "Бывайце здаровы". Хаця аўтары песні Адам Русак і Ісак Любан, але яна ўжо даўно стала народнай. За межамі Беларусі людзі нават не ведаюць, што гэта беларуская песня: адны кажуць — украінская, а іншыя — руская.

На святкаванні Дня славянскай пісьменнасці і культуры Алмаз выканаў сваю песню. Цяпер жа ён яшчэ пераклаў на кіргізскую мову "Вы шуміце, бярозы" і казку Уладзіміра Дубоўкі "Вяльможны Пых". Песню мы пастараемся надрукаваць у нашай мясцовай газеце, а наконт казак абяцаў падумаць кіраўнік беларускага пасольства Фёдар Плотнікаў. Цяпер у нас вельмі цяжка са сродкамі. Наступная казка, якую будзе перакладаць Алмаз, — "Дзяўчынка і кілім", але гэта толькі ў тым выпадку, калі вырашыцца пытанне аб друкаванні.

Дык вось, Алмаз Сейтказіеў жадае пазнаёміцца з беларускім паэтам.

Дарагая рэдакцыя! Можа хто-небудзь з вашых паэтаў-песеннікаў згодзіцца мець з ім перапіску, тады няхай прышле мне свой адрас, а я перадам Алмазу. Каб пацвердзіць напісанае, прыкладаю песню "Бывайце здаровы" і газетны артыкул аб свяце славянскай культуры і пісьменнасці.

З павагай і нізкім паклонам

**Анастасія САМАРДАК.**

### ЛАТВІЯ

У чэрвені ў Даўгаўпілсе сустракалі плытагонаў, якія, падтрымаўшы прапанову таварыства дружбы "Латвія—Беларусь", сплаўлялі плыты з Беларусі ў Даўгаўпілс, як даўней рабілі нашы продкі, і прысвяцілі гэтае свята плытагонаў 725-годдзю Даўгаўпілса. Хто ж тыя энтузіясты, што зрабілі шмат нялёгкай працы па афармленню неабходных дакументаў, нарыхтоўцы лесу, вязанню плытоў і дастаўцы іх па рацэ з неазначаным фарватэрам, дзе сустракаліся мелі і камяні? Гэта Яніс Пуданс, дэпутат Даўгаўпілскай гарадской думы; Яніс Сілаўс, дырэктар прыроднага парку "Даўгавас Локі"; Юры Кобасаў, экс-чэмпіён СССР па грэблі; Віктар Асташоў, турыст-воднік; Ніна Маргевіч, аператар тэлебачання; Святлана Гартаванава, журналіст, рэдактар даўгаўпілскай гарадской газеты; Вера Храмнікава, рэжысёр і артыстка даўгаўпілскага тэатра.

Усе яны вельмі цёпла ўспамінаюць знаходжанне ў беларускай вёсцы Баліны, што ў Верхнядзвінскім раёне, адкуль адплывалі. Запалі ў душу гасціннасць гаспадароў і беларускія песні. З пашанай сустракалі плытагонаў і ў Наўенскай воласці, што ў Латвіі, каля Дынабургскага замка на свяце Аўшдаўгавы (Верхняй Даўгавы).

Ажыццявіць гэту незвычайную вандроўку дапамаглі Генеральнае консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе і шэраг даўгаўпілскіх фірм, за што ім шчырае дзякуй.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
Даўгаўпілс.

НА ЗДЫМКУ: сустрэча ў Даўгаўпілсе.



## ПАКАЛЕННЕ-2000



**У сясцёр-блізнят Вольгі і Алены КАНАПЛЯНІК з Гомеля — свята. Правучыўшыся ў школе № 15 без чацвёрак усе 11 гадоў і атрымаўшы залатыя медалі, яны здалі "на выдатна" прафіліруючы экзамен і паступілі вучыцца ў Гомельскі дзяржаўны медыцынскі інстытут.**

**Але чаму тут гітара? Справа ў тым, што ёю дзяўчаты захапіліся пасля заканчэння ў свой час музычнай школы па класу фартэпіяна. Музыкай займаліся і дзед, і бацька сясцёр.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА,**
БелТА.

## АНШЛАГ

### ЧЫМ БЕЛАРУСУ ЗДЗІВІЦЬ НЕМЦА?

У Віцебск з Германіі вярнуўся непаўторны тэатр "Лялька". У саставе беларускай дэлегацыі трупа прымала ўдзел ў Міжнароднай выставе "Гановер-2000", у якой, дарэчы, удзельнічалі 160 краін свету. 22 ліпеня на пляцоўках гэтай аўтарытэтнай выставы адбыўся Дзень Беларусі. Кажуць, ён прайшоў паспяхова. Віцебскі лялечны тэатр зрабіў моцнае ўражанне на паважных немцаў.

Як паведаміў кіраўнік калектыву Віктар Клімчук, падчас спектакля "Брэменскія музыкі" гледачы літаральна крычалі ад захаплення. Быў поўны аншлаг. Прыемна, што лялечнае майстэрства беларускіх артыстаў — на сусветным узроўні!

**Уладзімір МАКСІМАЎ.**

## ЛЁСЫ

# ЗАЗЕР'ЕЎСКІ ЛЕТАПІСЕЦ

### ДА 100-годдзя БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕННІКА Міколы ЦЭЛЕША

Пачатак XX стагоддзя быў вельмі багатым на літаратурныя таленты. У 1900-м прыйшлі ў свет Антуан дэ Сент-Экзюперы, Наталі Сарот, Андрэй Платонаў... На цэлае сузор'е юбілеяў пасталела сёлета і літаратурная Беларусь: Уладзімір Жылка, Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Сымон Баранавых, Нічыпар Чарнушэвіч, Мікола Цэлеш. Прозвішча апошняга сёння, на жаль, мала каму вядомае...

Наша літаратура першай паловы XX стагоддзя — літаратура пераважна змрочных, сумных імёнаў і лёсаў. Бядуля, Журба, Гарун, Сумны... Светлага і сонечнага было мала і ў лёсах равеснікаў стагоддзя: У. Жылка, хворы на сухоты, памёр у высылцы; К. Чорны сядзеў у турме, дзе падчас катаванняў-допытаў падарваў здароўе; У. Дубоўка правёў у сталінскіх лагерах амаль трыццаць гадоў (некаторыя вядомыя паэты столькі ўвогуле не пражылі)... Трагічнымі сцежкамі па жыцці ішоў і Мікола Цэлеш.

Пра гэтага пісьменніка, публіцыста і перакладчыка адсутнічаюць звесткі нават у найпоўным шасцітомным біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі", і адзінай крыніцай вывучэння жыццяпісу М. Цэлеша застаюцца ягоныя аўтабіяграфіі (адна надрукавана ў кнізе М. Цэлеша "Хмары над Бацькаўшчынай", другая, больш падрабязная, захоўваецца ў сямейным архіве пісьменніка).

Мікола Цэлеш нарадзіўся ў вёсцы Зазер'е на Магілёўшчыне (на той час тэрыторыя Барысаўскага павета) 25 ліпеня (у беларускамоўным перакідным календары на 2000 год памылкова дата нараджэння пісьменніка пазначана 25 чэрвеня). Прадзед М. Цэлеша — граф Базыль Цэлеш — пасля паўстання 1861 года мусіў пакінуць радзіму і эмігрыраваць з Расійскай імперыі ў далёкую Амерыку. Яго ж дзеці (два сыны і дачка) засталіся на Беларусі, здабываючы свой хлеб сялянскай працай. Гэтая ж нялёгкая праца карміла і бацькоў будучага пісьменніка — Ёхіма (Яфіма) Цэлеша і Барбару з Каралёнкаў.

Гады маленства — ці не самыя шчаслівыя ў М. Цэлеша. З пранікнёнасцю і замілаваннем яны абмаляваны ў мастацкай аўтабіяграфічнай аповесці "Курылка (Запіскі вучня царкоўна - прыходскай школы)" (друкавалася ў № 10 часопіса "Полымя Рэвалюцыі" за 1934 год і ў 1935-м выйшла асобнай кнігай). Аўтар "Курылкі" выявіў добрае веданне дзіцячай псіхалогіі, нездарма ён у 30-х гадах узначальваў аддзел у газеце "Піянер Беларусі" (па сумеснай працы ў рэдакцыі яго памятае Мікола Аўрамчык).

Пасля вясковай школы М. Цэлеш у 1911 годзе паступіў у бліжэйшую ад хаты (17 кіламетраў) бурсу. Праз тры гады бацьку прызвалі ў войска (пачалася вайна), і Мікола, перапыніўшы вучобу, стаў працаваць на гаспадарцы. У гэты час давялося пазнаёміцца з Аляксандрам Блокам — паэт адбываў службу ў тым сапёрным падраздзяленні, што вяло дарогу паўз Зазер'е. А. Блок падарыў маладому Цэлешу свой паэтычны зборнік.

Затым праца на пошце ў Варонежы, на шахце ў кацярынаслаўскай Кадзіеўцы, агульнаадукацыйныя курсы і войска. Пасля дэмабілізацыі паступіў на факультэт грамадскіх навук БДУ, але кінуў вучобу. Пачаў працаваць у рэдакцыях беларускіх газет ("Паляўнічы Беларусі", "Піянер Беларусі", "Беларуская Вёска", "Звязда"). Абзавёўся сям'ёй...

У літаратуру М. Цэлеш уваходзіў з вершамі, аднак у друку дэбютаваў прозай, у часопісе "Маладняк" у 1929 годзе з'явілася яго апавяданне. У 30-х гадах выдаў пяць невялікіх зборнікаў прозы (1931 — "Апавяданні паляўнічага", 1932 — "Са стрэльбай і сабакам", 1935 — "Курылка" і інш.). Апавяданні М. Цэлеша — звычайна замалёўкі гаротнага і трагічнага жыцця беларусаў. Яны вызначаюцца публіцыстычнасцю, "эканоміяй" мастацка-выяўленчых сродкаў, псіхалагічнай заглыбленасцю.

Вайна 1941 года распачала галоўныя лёсавыя трагедыі пісьменніка. Пазней у адным са сваіх лістоў на радзіму ён, спавядаючыся, напіша пра жыццё ў акупіраваным Мінску: "Я не лічу сябе ў чым-небудзь павінным перад нашым народам: у час нямецкага наступу я ня меў ніякай магчымасьці рушыцца з Менску. Не я адзін! Увесь Менск застаўся на месцы, нават сын сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі. Некаторыя, праўда, пазьней прабіраліся пехатой праз фронт, але што да мяне, дык я і гэтага ня мог зрабіць, бо на маёй адказнасьці было трое малых дзяцей, — Слаўку ўсяго адзін месяц, — і хворая жонка пасьля родаў. Хіба я меў права пакінуць іх на верную пагібель?"

І жыццё працягвалася. У 1943 годзе ў Мінску пад псеўданімам М. Лясун выходзіць яго зборнік апавяданняў "На крыжы", у якім апісваліся сталінскія здзекі з беларускіх сялян, забойствы і сібірскія высылкі. Затым, з восені 1944 года, — эміграцкія дарогі: Нямеччына, ЗША. Праца ў Нью-Йорку грузчыкам, дворнікам, санітарам, насільшчыкам, слесарам-машыністам, цесляром. Ды сяброўства з эмігрантамі Ю. Віцьбічам і А. Адамовічам, якое адно і набліжала да Беларусі...

У 1952 годзе М. Цэлеш напісаў аповесць "Загібельскі летапіс" (дасюль не апублікавана, ёсць аўтарскі пераклад на рускую мову). Яна стала гнеўным абвінавачваннем антыгуманнай палітыкі 30-х гадоў, мастацкай хронікай сялянскіх пакутаў. Тыповым і трагічным вымалеваны ў аповесці вобраз Тадэя Галавача, беларуса-працаўніка, які ў 1922 годзе вярнуўся з нямецкага палону і, навучыўшыся "заходняму парадку", вырашыў узбагачаць і пашыраць сваю гаспадарку. Аднак таталітарная сістэма нават права на свабодную працу не дала яму: гаспадарку канфіскуюць, а Тадэя з жонкай вывозяць у Сібір. Сама ж вёска Загібелле ўспрымаецца як страшны сімвал і мае фатальнае гучанне.



Аповесць "Загібельскі летапіс" уражвае і сваімі кантрастамі: радасць — гора, багацце — бяднота, праца — гультайства, раскоша — галеча, жыццё — смерць. Прынцып кантрастнасці — адзін з галоўных прынцыпаў архітэктонікі твораў М. Цэлеша.

У 1953 годзе ў зборніку "Пёстрые рассказы" (Нью-Йорк) у аўтарскім перакладзе на рускую мову было надрукавана адно з лепшых апавяданняў М. Цэлеша "Янка сеяў — людзі жалі".

Пасля смерці Сталіна пачалася перапіска з Беларуссю, абудзілася жаданне вярнуцца на радзіму. Чужына моцна стамляла, адбірала апошнія сілы — і духоўныя, і фізічныя. Пасля аўтамабільнай аварыі балела левая рука, пагаршаўся зрок. І Беларусь ідэалізавалася, станавілася для М. Цэлеша "зямлёй запаветнай". "Зазер'я забыць не магу, і хочац прыехаць, пабачыцца... дзеці пойдуць на свой хлеб, думаю прыехаць да Вас", — пісаў ён родным, усур'ёз хвалячы сацыяльныя выгоды ў Савецкім Саюзе (медыцыну, курорты), скардзіўся брату Піліпу на сваю цяжкую працу, а сам у 1958 годзе, каб ездзіць на работу за Нью-Йорк, купіў аўтамабіль...

Час ішоў. У 1965-м М. Цэлеш за свой кошт выдаў кнігу "Дзесяць апавяданняў". Галоўнымі тэмамі зборніка сталі здзекі з сялянства падчас сталінскай калектывізацыі (апавяданні "Пад знакам Задыяка", "Помста", "Мера гвалту").

Калі на сесію Генеральнай Асамблеі ААН у ЗША прыязджаў народны паэт Максім Танк, М. Цэлеш змог сустрэцца з ім і перадаць некалькі сваіх апавяданняў, каб апублікаваць у Беларусі. Праз некаторы час іх надрукавала "Полымя" па псеўданімам Мікалас Прале кас.

Пісьменнік-эмігрант пачаў зноў задумвацца пра вяртанне на радзіму. На імя М. Танка даслаў ліст з патрабаваннем... "змены таталітарнага рэжыму, наданьня Беларусі сапраўднага суверэнітэту і незалежнасьці ад Масквы".

Напрыканцы 1975 года М. Цэлеш, хворы і стомлены, выйшаў з нью-йоркскага дома — і знік. Жонка і дзеці не адшукалі ягонага следу ні ў Амерыцы, ні ў Беларусі. А на стале засталіся недапрацаванымі аўтабіяграфічная аповесць "Нашчадкі", рукапіс аповесці пра перажытае "Смага пустыні", матэрыялы і накіды аповесці пра Вялікае княства Літоўскае "Карона і здрада", дзённікавыя запісы...

На Беларусі цяпер жывуць стрыечныя пляменнікі, унукі і праўнукі пісьменніка. Наведвалі рэспубліку жонка М. Цэлеша і дачка Данута, перадалі ягоны архіў.

І сёння ўжо маладзейшыя — унукі і праўнукі — як запавет чытаюць радкі дзённікаў Міколы Цэлеша: "Мы хочам быць роўнымі сярод роўных, у саюзе з усімі і гаспадарамі ў сябе дома... У сьвеце антаганізмаў нельга быць без айчыны...".

**Алесь ПАШКЕВІЧ.**

НА ЗДЫМКУ: Мікола ЦЭЛЕШ каля свайго нью-йоркскага дома.



МАЙСТЭРНЯ

# МАСТАЧКА, ЯКАЯ МАЛЮЕ КВЕТКАМІ



Здаецца, душа раслін знайшла свой прыстанак на карцінах беларускай мастачкі-фларысткі Галіны САКАЛОЎСКАЙ, ажыўляючы іх, напаўняючы асобай мяккасцю, святлом, цяплом, прыгажосцю і ледзь улоўным сумам. Праўда, тое, чым валодае мастачка, тэхнікай традыцыйнай фларыстыкі не назавеш: поруч са звычайным прыродным матэрыялам на яе палотнах прысутнічаюць элементы жывапісу. Фон кампазіцый, выкананы метадам распылення гуашы, перадае ўнутраны змест кветак, траў, лістоў, імху і нават пуху, а таксама ўяўленне самога аўтара. Кожная карціна — акно ў свет сімвалаў.

Белая ружа ў Галіны Леанідаўны — сімвал жанчыны, яе пачатку ў прыродзе, яна ж колеру мацярынскага малака і вясельнага вэлюму. Незабудка — вернасць. Рамонак — цудоўнае злучэнне беласнежнай чысціні і вогненнага сэрца. Стрэлкі — траўка Хрыста. Верас — пажаданне дастатку і асалоды жыцця, крываўнік — дабрабыту. Папараць — традыцыйная кветка шчасця, якое мы, людзі, шукаем усё сваё жыццё. Каласы пшаніцы — мудрасць.

Вялікую разумовую нагрузку ў яе працах нясуць лічбы. Адзінка — сімвал адзіноты. Двойка — гэта і супрацоўніцтва, і сям'я. Тройка — працяг і павелічэнне. Чацвёрка — ужо нейкая пэўная арганізацыя: чатыры сімвалы зямлі (вада, зямля, агонь, паветра), чатыры пары года. Пяцёрка — зорка. І, канешне, сямёрка — лічба дасканаласці. Дзесяць — лічба Галактыкі.

Асобы сэнс у такіх знаках, як, напрыклад, горы, прамень, свечка. Горы — гэта, як лічыць мастачка, вечны кліч неба крочыць да вяршыні. Яшчэ горы для яе сімвалізуюць лідэрства: гэта маяк і пуцяводная зорка, але яшчэ і вялікая адказнасць за тых, хто ідзе за табой, глядзіць на свет тваімі вачамі. Да гэтага знаку трэба дадаць яшчэ прамень — зараджэнне і жыцця, і бязмежжа. Свечка — сімвал гарэння і згарання ў імя кагосьці. Аб'яднаныя праменні, якія ідуць ад адзінага пачатку, — так нараджаецца Паўночнае ззянне. Гэта прыгажосць імгнення, якое можа быць апошнім. Матылёк, хоць і падобны на кветку, але ўсё ж не расліна. Гэта сумны напамін пра крохкасць і недаўгавечнасць некаторых жыццяў у прыродзе, перад якімі мы павінны напоўніцца глыбокай пашанай і беражлівасцю.

Кветкі, лічбы, сімвалы, аб'ядноўваючыся, нараджаюць кожны раз свой сюжэт, сваю тэму, свайго героя, а часам навat і некалькі герояў. Паколькі Галіна Леанідаўна любіць творчасць Мікалая Рэрыха, верыць у рэінкарнацыю, ёй здаецца, што жыццё чалавека напрамую залежыць ад таго, колькі жыццяў ён пражыў, а самае галоўнае — як ён іх пражыў. Ці вырасціў дрэва для сваёй сям'і, роду, нацыі, ці замацаваў магутныя карані, якія дазваляюць прынесці плады тым, хто будзе харчавацца мудрасцю гэтага дрэва.

Большасць работ Галіны Сакалоўскай аўтабіяграфічныя: "Аўтапартрэт", "Паміж мінулым і будучыняй", "Сон Ганначкі" (прысвячэнне дачцэ Ганне), "Душа"... Мастачка расказвае, як нараджалася адна з работ — "Лёс":

— Аднойчы я доўга не магла заснуць, раздумвала над праблемай неразумення некалі блізкіх мне людзей. У чатыры раніцы ўстала, узяла фарбы, расліны і ўсё, што было тады ў душы, "выліла" на палатно. У цэнтры яго тры ружы — вялікая раскрытая, кветачка меншая і бутон — так сімвалічна адлюстравала сябе з дзецьмі. Па баках размясціла ажурныя бардовыя галінкі — колер найвышэйшага напружання. Белыя парасонавыя расліны быццам сціскаюць ружу ў кальцо. Але зверху адбітак пальну распылены так, што адначасова нагадвае і навальнічнае воблака, і апошні ўсплёск вогнішча, што затухае, а злева — з боку сэрца — блакітны агонь надзеі і дапамогі, які заўсёды да нас ідзе, калі ўсе сілы напружаны ў гэты бок. Калі сітуацыя даведзена да абсурду, яна сама знішчае сябе, і людзі выходзяць з яе пераможцамі.





Некалі, не знайшоўшы паразумення, стаміўшыся ад грубых атак на асабістае "я", Галіна рассталася з мужам, адна гадавала дзяцей — сына і дачку. Каб пракарміць сям'ю, уладкавалася на працу — настаўнікам малявання ў сярэднюю школу № 197 горада Мінска. Зараз яна — завуч, але паранейшаму выкладае, вядзе студыю выяўленчага мастацтва. У школьным музеі — габелены і бацік, кераміка і скульптура і, канешне, фларыстыка, выкананыя рукамі яе вучняў.

Па адукацыі яна — афарміцель-дызайнер, скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Раней да многага хацелася прыкласці рукі і душу: займалася і разьбой па дрэву, і скульптурай, і чаканкай, і габеленам, і жывапісам. Але ад тых яе твораў прыкладной творчасці да мастацкіх палотнаў, якія не раз дэманстраваліся ў нацыянальных музеях Беларусі, — "дыстанцыя вялікага памеру". І ўсё таму, што яна палюбіла фларыстыку. Дваццаць пяць гадоў назад у магазіне ўпершыню ўбачыла карціну, створаную пры дапамозе засушаных раслін. Яна каштавала не танна, вось і вырашыла сама паспрабаваць зрабіць нешта падобнае. Яе першы твор сябрам спадабаўся. І хаця яна не любіць працаваць на заказ, аднак, калі яе папросяць сябры, заўсёды рада прысвяціць каму-небудзь сваю карціну. З творамі Галіны Сакалоўскай ужо пазнаёміліся ў Смаленску, дзе нядаўна прайшла яе персанальная выстава. Сёлета ўвосень іх можна будзе ўбачыць у Маскоўскім цэнтры Рэрыхаў.

Пра адносіны мастачкі з раслінамі можна напісаць цэлую паэму. У дзіцячых снах Галя заўсёды знаходзіла сховішча ад сваіх жахаў сярод траў, дрэў, аблокаў.

— Мне здаецца, — гаворыць яна, — я адчуваю сутнасць раслін, разумею іх, нават размаўляю з імі. І спрабую праўдзіва іх гісторый перадаць людзям. Так што тая магазінная работа была толькі штуршком, які абудзіў даўно жаданае.

Ёсць у Галіны Леанідаўны і яшчэ адно захапленне — інтэр'еры, якія яна дапамагае стварыць сваім сябрам і знаёмым. Толькі ўявіце: цэлы год ездзіла з сяброўкай абклейваць нанава адбудаваную царкоўку ў беларускім пасёлку Смілавічы. Па ўласных чарцяжах і тэхналогіі, з улікам царкоўных традыцый прыдумала малюнак, для ўвасаблення якога спатрэбілася разрэзаць сотні метраў шпалер на патрэбныя па колеру і памеру кавалачкі. А потым замацаваць усё гэта на сценах і скляпеннях. Айцу Валяр'яну, прыхаджанам царквы спадабалася, але яшчэ больш задавальненне ад увасаблення сваёй задумы атрымала сама мастачка.

...У гэтай стройнай, мініяцюрнай жанчыны з надзвя яркімі цёмнымі вачыма і па-дзіцячы даверлівай усмешкай і на самай справе выключна працаздольнасць, залатыя рукі і талент, з якімі яна безаглядна ідзе на дапамогу людзям. Таму што верыць: "аддаўшы — папоўніцца"...

**Таццяна ХРАПІНА.**

МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ



● Яўген КАЗЮЛЯ.

У Мінску, у Доме дружбы, 24 ліпеня адкрылася выстава кітайскіх нацыянальных касцюмаў. Яна прымеркавана да візіту намесніка Старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі спадара Ху Цзіньтао ў Рэспубліку Беларусь. Адкрыла экспазіцыю Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь У Сяоцю. На адкрыцці прысутнічаў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі.

НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця выставы.




СУСТРЭЧЫ

## ЗЯМЛЯЧКА З-ЗА АКІЯНА

Лета — цудоўная пара для многіх яшчэ і тым, што менавіта ў гэты час прыязджаюць на сваю Бацькаўшчыну нашы землякі з розных краін свету. Вось і нядаўна ў Беларускім саюзе архітэктараў адбылася сустрэча сталічных дойлідаў са сваім былым калегам Інай Ерусалімчык, якая ўжо 21 год жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. Нарадзілася Маіна — гэта яе поўнае імя — на Віцебшчыне. Тут жа, не паспеўшы эвакуіравацца ў тыл, разам з маці і братам перажыла вайну (бацьку рэпрэсіравалі ў 1937-м). Пасля заканчэння сямігодкі паехала паступаць у Мінск. Кіравалася адзіным прынцыпам: будучая спецыяльнасць абавязкова павінна быць звязана з мастацтвам. Так вызначыўся прафесійны шлях: архітэктурнае аддзяленне тэхнікума, пасля — політэхнічны інстытут, аспірантура, выкладчыцкая дзейнасць. Тым не менш, па словах самой Іны Іванаўны, пастаянна "адхілялася" ў іншыя творчыя сферы: спявала ў вакальнай і опернай студыях, пісала вершы, праўда, "у стол", сарамеючыся гэтага "несалідная" захаплення.

А вось у Лос-Анджэлесе, дзе Іна Ерусалімчык жыве разам з мужам і сынам з 1979 года, увесь свой вольны час яна аддае менавіта паэзіі. Пачуццё настальгіі па Бацькаўшчыне, родных і сябрах аказалася такім моцным, што, здаецца, вершы складаюцца самі сабой.

Достаточно на свете стран
чудесных
(Не только понаслышке
знаю я),
Но мой привет летит
на крыльях песни
К тебе одной, родимая
земля.
И, вопреки людскому
наговору
И смыслу здравому, быть
может, вопреки,
Я твоему, судьба,
не верю приговору —
Мы с родиною свидеться
должны!

З 80-х гадоў паэтэса актыўна публікуецца ў перыядычным друку замежжа. У якасці літаратурнага псеўданіма яна абрала прозвішча Іна Саніна (Іна — частка поўнага імя, Саніна — камбінацыя імёнаў сына і маці). Апошнія два гады Іна Саніна — член ПЭН-клуба, міжнароднай арганізацыі, якая аб'ядноўвае пісьменнікаў усіх краін свету. Сёлета свой традыцыйны, 67-мы кангрэс яны праводзілі ў Маскве, і, канешне, паэтка не магла не скарыстаць гэтую цудоўную магчымасць — завітаць на Беларусь.

У 1984 годзе ў Лос-Анджэлесе выйшаў першы зборнік Іны Саніной "Кветкі часу", пазней з'явіўся зборнік "Сэнс". Складаюцца яны з вершаў розных перыядаў, у асноўным лірычных, дзе настальгічная матывы пераплятаюцца з філасофскімі разважаннямі аб трывогах нашага неспакойнага часу, сэнсе і перапетыях чалавечага жыцця...

**Нэлі ДЗЕНІСЕНКА.**

## БРЭСЦКІЯ БАЙКЕРЫ





● Раман КАБЯК.

Адзіночнае захапленне маладых матацыклістаў, якія некалі ганялі па начах і будзілі горад шумам матораў, перарастае ў Брэсце ў байкерскі рух — асобы стыль жыцця, пабудаваны па прынятых правілах. Сярод байкераў — маладыя людзі розных прафесій: музыканты, медыкі, аўтаслесары. Увесь вольны час яны прысвячаюць цюнінгу сваіх двухколых коней і робяць іх непаўторнымі, індывідуальнымі. У байкераў забаронены наркаманія і рукапрыкладства, пры выездзе на дарогу яны дэманструюць поўнае падпарадкаванне правілам дарожнага руху.

НА ЗДЫМКАХ: любяць брэсцкія байкеры сабрацца разам і пагутарыць; байкер Дзіма.

**БелТА.**

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ВЕЛІЧНАЯ ПОСТАЦЬ

Сёлета выпадае юбілей дзяржаўнага мужа, роўнага якому ў нашай мінуўшчыне няма. Бо значнасць у гісторыі валадароў вызначаецца не па іх дэкларацыях і добрых намерах, а па тым, што яны рэальнага зрабілі для народа, якім воляю лёсу кіравалі. Перыяд валадарання Вітаўта Вялікага — а гэта 38 (!) гадоў — ёсць найвышэйшы ўздым беларускай дзяржавы.

Правамерна з улікам урокаў гісторыі паставіць пытанне: як жа ўдалося яму захаваць сябе і, галоўнае, сваю дзяржаву ў той надзвычай складаны час?

Адказ такі: найперш дзякуючы мудрасці, уменню праводзіць надзвычай гібкую, але не халопскую нікую перад іншымі палітыку, у аснове якой не здрада ўласным нацыянальным інтарэсам, а, наадварот, іх бясспрэчны прыярытэт, нават святасць. Таксама, як для кожнага пачцівага чалавека найперш блізка і важна **сваё** — свая хата, жонка, дзеці. Калі няма гэтага — значыць пустадомак, а не Гаспадар. А яшчэ больш трэба дбаць пра **сваё** кіраўніку дзяржавы, бо няма большай ганьбы і самазнішчэння, як здрада нацыянальным інтарэсам, ператварэнне сябе ў марыянетку...

...І вось спаўняецца 650 гадоў ад нараджэння вялікага беларускага Уладара. З гэтай нагоды выдавецтва "Бацькаўшчына" выпусціла адмысловы насценны каляндар, выкананы мастаком Міколам Купавам, які не ўпершыню ганаруе постаці тых, што склалі велічную славу нашага народа. Выявы беларускіх дзеячаў, увасобленыя Купавам, упрыгожваюць многія бібліятэкі і іншыя асяродкі культуры. Няма сумнення, "Вітаўт Вялікі" таксама займе сваё годнае месца.

**Яўген ЛЕЦКА.**

ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ВІТАЎТ

2000 2001

650 ГАДОЎ АД НАРАДЖЭНЬНЯ

ВІТАЎТА

ГАСПАДАРА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ – ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

1350-1430

## КРЫЖАВАНКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Лічбавае абазначэнне прадметаў, размешчаных у паслядоўным парадку. 6. Шчыт, заслона з паверхняй, якая адбівае, паглынае ці пераўтварае выпраменьванне. 8. Рыбалоўная снасць у выглядзе конусападобнай сеткі, нацягнутай на абручы. 10. Сотая частка якой-небудзь адзінкі. 11. Тоўстая шаўковая тканіна, з аднаго боку пакрытая кароткім мяккім ворсам. 12. Часовае пасяленне, стаянка каго-небудзь. 14. Вадкасць, насычаная рэчывамі таго, што ў ёй варылася. 16. Збан з вузкім горлам. 17. Кароткае алегарычнае апавяданне з павучальным зместам. 18. Тоўстая прасмоленая або навошчаная нітка для шыцця абутку. 20. Халодная будыніна для кармоў і гаспадарчых прылад. 25. Пажыткі, хатнія рэчы. 26. Маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год. 27. Склад зброі і ваеннай амуніцыі. 28. Усталяваны парадак. 30. Вялікае памяшканне для жывёлы, кароўнік. 32. Умацаваны на мачце вялікі кавалак тканіны, які надзімаецца ветрам і прыводзіць у рух судна; ветразь. 33. Прастуда, трасца, малярыя.



**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Падрыхтаванае для сяўбы або засеянае поле. 2. Група музыкантаў для сумеснага выканання музычных твораў на розных інструментах. 3. Нікчэмны, подлы чалавек; нягоднік, прайдзісвет. 4. Няволя, прыгнёт, уціск. 5. Аб'ява ў тэатры, кіно аб тым, што ўсе білеты прададзены. 7. Жанчына, якая доіць кароў і даглядае іх. 9. Металічная пласцінка з дзіркамі, якая служыць для раздраблення, расцірання чаго-небудзь. 10. Спартсмен, які спецыялізуецца ў бегу ці яздзе на доўгія дыстанцыі. 13. Агульная назва розных відаў артылерыйскай зброі. 15. У Старажытнай Русі: буйное землянае ўладанне, атрыманае ў спадчыну ад бацькі. 18. Адкрытая спрэчка па навуковых, літаратурных і іншых пытаннях з удзелам усіх жадаючых. 19. Знешняя частка кола, звычайна абцягнутая шынай. 21. Орган абароны і нападу ў пчол, вос, шаршнёў і іншых насякомых. 22. Важак, правадыр (групы, шайкі, банды). 23. Вайсковы вартавы атрад. 24. Украінскі народны мнагаструнны музычны інструмент для ігры пальцамі. 29. Усякая выпуклая замкнутая крывая лінія без вуглавых пунктаў, напрыклад, эліпс. 31. Склад, месца захавання тавараў, матэрыялаў.

**Склала Ірына БЕКІШ.**

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 31

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 1. Шчырасць. 5. Выразнасць. 7. Ляўконія. 8. Падзяка. 10. Выканаўца. 12. Шчур. 13. Шпак. 15. Напрамак. 17. Фортка. 18. Гарбата. 19. Рух. 20. Півоня. 22. Погляд. 23. Ласунак. 28. Пялёстак. 29. Смага. 32. Язмін. 33. Кастрычнік. 34. Становішча.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Шкло. 2. Аловак. 3. Прадстаўнік. 4. Мана. 5. Выпадак. 6. Цецярук. 9. Каштоўнасць. 11. Аматар. 14. Апрацоўка. 16. Каваль. 18. Гук. 21. Скарбонка. 23. Дзяўчына. 24. Люты. 25. Лекі. 26. Рыса. 27. Лёс. 30. Густ. 31. Змрок. 32. Ятка. 33. Кут.**

## ГУМАР

**Хлопчык прыходзіць са школы.**

**Бацька:**

**— Цябе сёння выклікалі?**

**Сын:**

**— Так, а заўтра твая чарга. І адразу да дырэктара.**

* * *

**Сын прынёс са школы новую кніжку.**

**— Гэта прэмія, мама.**

**— Прэмія! За што, дарагі?**

**— Нам задалі пытанне, колькі ног у страуса. Я адказаў — тры.**

**— У страуса дзве нагі!**

**— Так, але ўсе астатнія сказалі, што чатыры.**

* * *

**Муж прыйшоў увечары дадому сярдзіты і стомлены і кажа жонцы:**

**— Гэта ты ўсё вінаватая! Пасылаеш мяне на бацькоўскі сход і не кажаш, у якой школе вучыцца наш сын.**


«Голас Радзімы»

**Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС:** 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

**ТЭЛЕФОНЫ:** (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 1986.
Падпісана да друку 14.8.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).